Трагедыя яўрэйскага народа

# Ахвяры СД

**Вольга КОЛАСАВА,**
*старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага гісторыка-краязнаўчага музея.*

***Больш за паўстагоддзе аддзяляе нас ад падзей Вялікай Айчыннай вайны. Пра вайну, здаецца, сказана ўсё: знятыя дзесяткі кінафільмаў, напісаныя сотні кніг і манаграфій, грунтоўна падлічаныя ўсе матэрыяльныя і людскія страты, адкрыты шырокі доступ да архіўных матэрыялаў. Здавалася б, навошта варушыць мінулае, навошта ўспамінаць тых, каго ўжо даўно няма ў жывых - іх усё адно не вярнуць... Аднойчы пасля экскурсіі, закончыўшы расказ пра падзеі Вялікай Айчыннай вайны на Вілейшчыне, пачула ад адной з вучаніц: "А навошта нам гэта ведаць і помніць? Каб не перамаглі фашыстаў, жылі б цяпер, як у Германіі".***

***Не будзем разважаць аб тым, як бы мы жылі, каб не перамаглі шведаў, французаў, немцаў, няхай пра гэта раскажуць дакументы, удзельнікі і сведкі тых страшных незабыўных дзён.***

***На Нюрнбергскім судзе народаў над галоўнымі ваеннымі злачынцамі другой сусветнай вайны былі абнародаваныя страшныя лічбы ахвяр фашызму, сярод іх - 6 мільёнаў чалавек, знішчаных за прыналежнасць да яўрэйскай нацыянальнасці. Барацьба з яўрэямі стала часткай адладжанага плану ачышчэння "жыццёвай прасторы". На акупаваных тэрыторыях гітлераўцы стваралі для яўрэяў лагеры смерці - гета, у якіх дзейнічала добра прадуманая сістэма зневажання, катаржнай працы, пабояў, катавання, расстрэлаў, пагромаў... На тэрыторыі Беларусі такіх гета было 70. Самае буйное з іх - мінскае, створанае 20 ліпеня 1941 года.***

***Пагалоўнаму знішчэнню падвяргалася яўрэйскае насельніцтва і ў гета, створаных у іншых беларускіх гарадах і населеных пунктах, у тым ліку, і ў Вілейцы.***

***Мы ўдзячныя Мядзельскаму аддзелу УКДБ па г. Мінску і Мінскай вобласці за прадастаўленыя ў Вілейскі гісторыка-краязнаўчы музей матэрыялы расследавання злачынстваў, здзейсненых былымі служачымі Галоўнага аддзялення СД у Вілейцы.***

***Слова даецца дакументам.***

Цэнтральнае ведамства зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія (ФРГ) пры пракуратуры ў Дортмундзе, а таксама следчы суддзя пры зямельным судзе г. Бохума дырэктар зямельнага суда доктар Фрозе правялі папярэдняе расследаванне па справах аб нацысцкіх злачынствах (забойствах), якія былі здзейсненыя былымі служачымі аддзялення паліцыі бяспекі і службы бяспекі Беларусі ў Вілейцы, а тасама іншых падраздзяленняў у раёне Вілейкі. У сувязі з гэтым у Міністэрства юстыцыі СССР былі накіраваныя звароты аб прававой дапамозе ад 22 мая 1967 года і 30 жніўня 1969 года. У звароце аб прававой дапамозе ад 30 жніўня 1969 года ў адпаведнасці з тым станам папярэдняга следства ўказаныя імёны абвінавачваных, пункты абвінавачвання, месцы здзяйснення злачынстваў і вядомыя тады агульныя абставіны здзяйснення злачынстваў, а таксама падборка з фотаздымкамі і пералікам, дзве тапаграфічныя карты раёна Вілейкі і план тэрыторыі СД у Вілейцы.



**На здымку з архіваў КДБ Эрых Фішэр, Граве, і, магчыма, Эміль Ганзель, Артнер, Гес.**



**Куранец. У Цэнтры ў форме Краўзе.**

Што тычыцца прадмету судовага расследавання, і ў асаблівасці сутнасці злачынстваў, вядома, што ў ліку мер, прынятых галоўным аддзяленнем СД у Вілейцы пад кіраўніцтвам тадышняга хаўптштурмфюрэра СС Рудольфа Граве для т. зв. "канчатковага рашэння яўрэйскага пытання" аддзяленне гэтае правяло з 1942 па 1943 год расстрэлы яўрэйскіх грамадзянаў - з удзелам па чарзе супрацоўнікаў мясцовай установы, а часткова шляхам выкарыстання іншых вайсковых адзінак і пры падтрымцы ўстаноў з іншых мясцовасцяў, а дакладна:

1. 3 сакавіка 1942 года забітыя ў г. Вілейцы 302 яўрэі. Атрады галоўнага аддзялення СД, пры садзейнічанні невядомых па імені мясцовых жыхароў, выгналі гэтых грамадзян вечарам 2 сакавіка 1942 года з іх кватэр і прыгналі ноччу да пункту СД. На наступны дзень было праведзенае сартаванне людзей, у выніку якога вылучаны працаздольныя, а астатнія яўрэі расстраляныя на месцы паблізу ад управы. Затым трупы расстраляных былі аблітыя бензінам і спаленыя.

2. Наступны масавы расстрэл меў месца 17 сакавіка 1942 года ў в. Ілья, ахвярамі яго сталі 520 яўрэяў. Іх спачатку выгналі з дамоў, а затым расстралялі ў хляве.

3. 1 красавіка 1942 года ў в. Даўгінава расстраляна каля 800 яўрэйскіх грамадзянаў. Пры падтрымцы адной, невядомай па назве вайсковай адзінкі, ноччу шчыльна акружылі гета. Яшчэ ў час аблавы людзей расстрэльвалі проста на вуліцах. Затым вылучылі працаздольных, астатніх расстралялі ў хляве і трупы спалілі.

4. 9 верасня 1942 года "ачышчанае" гета, якое яшчэ заставалася ў в. Куранец. Пры падтрымцы адной воінскай адзінкі, назва якой невядомая, прыблізна ў 4 гадзіны раніцы гета акружылі чыноўнікі галоўнага аддзялення СД, якія прыбылі з Вілейкі. Яны пагналі яўрэйскіх грамадзян на гарадскую базарную плошчу і загадалі ім стаць на калені. Расстраляныя яны ў адным старым доме па вуліцы Мядзельскай. Дом падпалілі. Да гэтага часу невядома, хто з чыноўнікаў вілейскага галоўнага аддзялення ўдзельнічаў у расстрэле і колькі дакладна было ахвяр. Увогуле было забіта прыкладна 800 яўрэяў.

5. 5 лістапада 1942 года расстраляна ад 70 да 80 яўрэяў з Вілейкі. На грузавіках іх павезлі за горад і расстралялі ля падрыхтаваных ям.

6. Вясной 1943 года зноў меў месца масавы расстрэл яўрэйскіх грамадзян у Вілейцы. У двары гебітскамісарыяту праведзеная селекцыя людзей, вылучаны працаздольныя, астатнія расстраляныя ў хляве за горадам. Перад смерцю ахвяры былі вымушаныя распрануцца. Колькасць ахвяр ад 40 да 60 чалавек. Хлеў разам з целамі расстраляных падпалілі.

Акрамя масавых расстрэлаў яўрэйскага насельніцтва, чыноўнікамі галоўнага аддзялення СД у Вілейцы знішчаліся таксама асобныя грамадзяне ці групы людзей неяўрэйскага паходжання. Расстрэлы адбываліся ў асноўным паблізу ад будынка аддзялення СД, і асабліва часта вакол часткова разбуранай турмы і каля глыбокай ямы, якая засталася пасля бамбардзіроўкі горада, трупы закопваліся. Два-тры разы ў тыдзень гэтыя месцы былі арэнай масавых забойстваў мірнага насельніцтва.

Галоўнае аддзяленне СД у Вілейцы пад кіраўніцтвам Р. Граве было створана 4 лютага 1942 года. Яго супрацоўнікі прыбылі са службы "начальніка паліцыі бяспекі і службы бяспекі" з Мінска, некаторыя іншыя, як, напрыклад, Граве, з раёна дзейнічання айнзатцкаманды "1б" заходней Ленінграда праз Мінск у Вілейку.

Асабовы склад аддзялення мяняўся. На працягу ўсяго часу ў Вілейцы знаходзіліся напэўна:

- **Граве Рудольф**, нарадзіўся 6 чэрвеня 1911 года, у Залісбургу, кіраўнік аддзялення СД, памер 11 чэрвеня 1944 года.

- **Хельман Вільгельм**, нарадзіўся 29 лютага 1908 г. у Ватэншэйдзе, шарфюрэр СС, магчыма, следчы, памер 6 мая 1968 г.

- **Бёрш Тэадор**, нарадзіўся 15 сакавіка 1911 г. у Эсене, шарфюрэр СС, вадзіцель, пераважна шафёр Граве.

- **ХанзельЭміль**, нарадзіўся 21 жніўня 1906 г. у Карвіне, шарфюрэр СС, начальнік гаража - і шафёр.

- **Фішэр Ганс Роберт Бертольд**, нарадзіся 15 лістапада 1914 г. у Тэмпліне, старшы вахмістр ахоўнай паліцыі.

- **Ліпс Альберт Пауль**, нарадзіўся 18 студзеня 1900 г. у Страсбурзе, гаўптшарфюрэр СС і камандзір узвода войскаў СС пры СД у Вілейцы.

- **Гес**, раней **Прыбыл Франц Карл**, нарадзіўся 20 ліпеня 1909 г. у Косцеале, ротэнфюрэр СС, пакараны смерцю ў 1946 г. у Мінску.

Папярэдняе следства не выявіла ніякіх доказаў таго, што абвінавачваныя па гэтай справе маглі б быць у раёне Вілейкі яшчэ да 4 лютага 1942 года. Хаця вядома, што акцыі па знішчэнні мірнага насельніцтва, як і наогул забойствы, праводзіліся з першых дзён акупацыі Вілейкі, але яны не з'яўляюцца прадметам гэтага расследавання.

Пракуратура СССР зрабіла вялізную работу і прадаставіла ў распараджэнне цэнтральнага ведамства зямельных упраўленняў юстыцыі ФРГ, а таксма дырэкару зямельнага суда Бохума доктару Фрозе доказны матэрыял для магчымага выкарыстання ў расследаванні, якое ён вядзе, а менавіта: акты Вілейскай гарадской Дзяржаўнай Надзвычайнай камісіі па ўстанаўленні нанесеных злачынстваў нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў перыяд акупацыі тэрыторыі Вілейкі і яе наваколля, пратаколы допытаў сведкаў, якія жылі на тэрытрыі Савецкага Саюза і за яго межамі, сведчанні ваеннапалонных нямецкай арміі, што адбывалі тэрміны пакарання ў савецкіх лагерах.

Вось некаторыя дакументы:

**"Акт Вілейскай Гарадской Дзяржаўнай Надзвычайнай Камісіі па ўстанаўленні нанесеных злачынстваў нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў перыяд акупацыі г. Вілейкі, 30-31 сакавіка, 1-2 красавіка 1945 года.**

Гарадская Дзяржаўная Надзвычайная Камісія ў складзе Князева А.М. - старшыня камісіі, сакратар ГККП(б)Б, членаў: Яфімцава Д. Г., старшыня гарвыканкома, Макеева А. В., нам. старшыні гарвыканкома, Хахоніна К. І., начальнік гараддзела НКУС, Сафонава Г. А., гарпракурор, Бяляўскага А. А., Благачынны - настаяцель Вілейскай праваслаўнай царквы, з удзелам прадстаўнікоў урачэбна-медыцынскіх экспертаў: Ларыёнава Л. Ф., прафесар анатоміі аблбальніцы, Фалалеева Ю. В., хірург-ардынатар аблбальніцы, Назарава А. М., заг. хірургічнага аддзялення аблбальніцы і ўпаўнаважанага Упрўлення НКДБ Такмакова Н. Д. склалі акт аб ніжэйвыкладзеным:

На падставе заяў асобных грамадзянаў горада нямецка-фашысцкія захопнікі ў перыяд акупацыі тэрыторыі горада Вілейкі выконвалі масавае знішчэнне мірных савецкіх грамадзян - мужчын, жанчын, дзяцей - шляхам расстрэлаў і спальвання як у самім горадзе Вілейцы, так і ў яго наваколлях.

Гэтыя паказанні пацвердзіў і паказаў месца масавах расстрэлаў савецкіх грамадзянаў актыўны і непасрэдны ўдзельнік расстрэлаў грамадзянаў горада Ясінскі Уладзімір Іванавіч, начальнік гарадской турмы СД у перыяд нямецкай акупацыі, цяпер арыштаваны следчымі органамі.

Кіруючыся паказаннямі грамадзян і ўказаннямі арыштаванага следчымі органамі Ясінскага У. І., гарадская дзяржаўная надзвычайная камісія пры раскопках у паўтара метрах ад сцяны гарадской турмы з паўночнага боку ўстанавіла:

1. Яму даўжынёй 6 метраў і шырынёй 4 метры, з якой пры раскопках на глыбіні 4 метраў было выцягнута 45 напаўсатлелых трупаў мужчынскага і жаночага полу, па захаваўшыхся прыкметах і медыцынскай экспертызе ва ўзросце ад 18 да 60 год, а таксама 5 дзіцячых трупаў ва ўзросце ад 5 да 14 год, умярцвёных у большасці выпадкаў агнястрэльнай зброяй у вобласць галавы (патыліцу), з іх частка трупаў мае праломы чарапоў у вобласці ілба, якія сведчаць аб умярцвенні шляхам прымянення халоднай зброі.

2. Выцягнутыя з ямы трупы паказваюць, што яны знаходзіліся ў крайне бязладным становішчы, таму што пасля іх умярцвення (расстрэлаў) ахвяры былі кінутыя ў яму яшчэ жывымі, аб гэтым сведчаць факты доўгай агоніі - трупы ў розных позах, такім чынам, смерць наступіла не адразу, а толькі пасля таго, як яны былі засыпаныя невялікім слоем зямлі. Медыцынскай экспертызай устаноўлена, што большасць з іх памірала пакутніцкай смерцю.

3. Пры ўскрыцці ямы, г. зн., зняцці верхняга слоя зямлі ад 50 да 70 см і далейшых раскопках з ямы вымалася шчыльная светла-шэрая маса, а таксама попел, які гаворыць аб сатлелых трупах. Такі факт паказвае, што нямецка-фашысцкія варвары прымянялі для ўмярцвення хімічныя сродкі (раствор каўстычнай соды), якой абліваліся трупы пасля расстрэлаў. Разам з гэтым прымяняліся метады спальвання трупаў.

4. Таксам вызначана што масавае знішчэнне мірных савецкіх грамадзянаў г. Вілейкі (расстрэлы, спальванне і іншыя спосабы) нямецка-фашысцкімі захопнікамі і іх памагатымі, што і пацвярджае арыштаваны органамі следства Ясінскі У. І., адносяцца да веснавога перыяду 1942 года і ў наступны перыяд да моманту выгнання нямецкіх акупантаў.

5. Агульная колькасць умярцвёных мірных савецкіх грамадзян г. Вілейка і яго ваколіц па заявах сведкаў і паказаннях арыштаванага Ясінскага У. І. у агароджы турмы і іншых месцах складае 7 тысяч чалавек.

Асноўнымі віноўнікамі ўсіх злачынстваў, прычыненых савецкім грамадзянам г. Вілейкі з боку нямецка-фашысцкіх захопнікаў і згаданых злачынстваў у сапраўдным акце, што пацверджана раскопкай ямы і выцягнутымі трупамі, з'яўляецца былы начальнік спецыяльнай секцыі СД афіцэр нямецкай арміі Шмелінг і памагатыя нямецкіх захопнікаў: унтэр-афіцэры паліцыі СД Эсткоўскі, Гулроля і Ясінскі У. І., цяпер арыштаваны органамі следства.

Аб чым і склалі гэты акт.

Акт засведчаны подпісамі старшыні і членаў камісіі".

*Працяг будзе.*

# Беларусь інтэгруецца з Польшчай

Пачатак на 1-й стар.

У большасці сваёй семінар насіў практычны характар: польскія газетчыкі распавядалі пра свой канкрэтны досвед у вядзенні газетнага бізнесу. Дарэчы будзе зазначыць, што, пачаўшы з лістовак у часы падполля, сёння гэтыя выданні выдаюцца салiднымі тыражамі, маюць аб'ём у дваццаць чатыры старонкі, друкуюцца на якасным паліграфічным узроўні. Наогул, выданні сталі неад'емнай часткай жыцця рэгіянальных супольнасцяў. Палякам жа было цікава даведацца аб сённяшнім жыцці ў Беларусі. Мы ў многім паўтараем шлях Польшчы апошняга дзесяцігоддзя. У гэтым пераканаліся, здаецца, усе. Як пераканаліся яшчэ раз ў роднаснасці нашых культур і гісторыі.

З удзельнікамі семінара сустрэлася першы сакратар пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў Беларусі пані Дыяна Моксэй (Diana Moxhay), якая расказала пра культурныя і інфармацыйныя праграмы дыпламатычнай місіі ЗША на тэрыторыі Беларусі.

Як заўсёды пасля візіту амерыканцаў у нашу газету, мы мелі званок з КДБ з прапановай сустрэцца. Праўда, маўляў, з іншай нагоды. Ведаеце, такое супадзенне.

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*
*Фота Алега ГУЛЕЦКАГА і Ігара ВОЙТКІ.*

**Свой аўтапартрэт Юрый Нікулін год таму даслаў трэцякласніку Івану Бялкову і яго малодшаму брату Міколе. Вялікі артыст імкнуўся адказваць на ўсе лісты, што прыходзілі да яго. Нават калі гэта маленькія жыхары іншай дзяржавы.**



## Знайсці свой дом

# Дапаможа ослік Міша



*АСТРАВЕЦ. Сям'я Смірновых, у складзе жонкі Элы, мужа Уладзіміра, дзяцей Улада і Валодзі, а таксама осліка Мішы, запрэгшы апошняга, на кібітцы накіроўваецца з Запарожжа ў вёску Стрыпішкі. Яны хочуць пабудаваць у стараверскім цэнтры ля царквы парк, каб там была і алея Правіцеляў, і алея Смутку - усіх бедаў людскіх. Акрамя гэтага, Уладзімір хоча перанесці ў мяркуемы парк рэшткі з магілы родзіча, якога забілі немцы.*

У гэтае падарожжа яны рушылі больш за тры месяцы таму і, дзякуючы осліку, які, дарэчы, без капрызаў, лёгка пераадольвае 20 кіламетраў, канчатковага пункту практычна дасягнулі. Па дарозе спалі ў кібітцы, а елі, як прызнаўся Уладзімір, што бог пашле. Проста шанцавала на добрых людзей - хто хлеба, хто бульбы даваў не шкадуючы. А адна з адметнасцяў беларусаў - сярод людзей яны вызначаюцца выключным складам. Такіх пашукаць трэба.

А яшчэ Уладзімір хацеў бы, каб царква ўвайшла ў "Залатое колца" Беларусі, ствараемае моладдзю.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*
*Фота аўтара.*

## Навіны

# Атрад "падбій бабкі"

*СМАРГОНЬ. Аперацыя "Ліпень-97" праводзілася памежнікамі сумесна з міліцыяй і КДБ на тэрыторыі памежных з Літвой раёнаў.*

Нядаўна ў пагранатрадзе падводзіліся яе вынікі. Затрымана 48 парушальнікаў мяжы і 11 - пагранрэжыму, 5 аўтамабіляў, а таксама 2000 долараў. І нават адзінка агнястрэльнай зброі.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

# Камуністы абараняюць маўзалей

*СМАРГОНЬ. 1 жніўня заканчваецца арганізаваная камуністамі рэспублікі акцыя па зборы подпісаў у абарону маўзалея У. Леніна і сродкаў у падтрымку газеты "Товарищ".*

У Смаргоні свае подпісы пад заявай аб неабходнасці захавання маўзалея і цела правадыра ў ім паставілі 108 чалавек (па стане на 25 жніўня). Збор сродкаў у падтрымку газеты "Товарищ" не адбыўся.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

# Актуальная праблема

*СМАРГОНЬ. Першы раз за апошнія гадоў з пяць прафілактычныя работы ацяпляльнай сістэмы занялі ўсяго два тыдні. Увесь астатні летні час жыхары горада маглі задавольвацца гарачай вадой з 16-00 да 23-00 у рабочыя дні і з 8-00 да 23-00 у святочныя.*

Менш пашчасціла толькі жыхарам м-на "Прамыслоўы". З-за неплацежаздольнасці агрэгатнага завода, якому належыць кацельня, мыцца тут будуць толькі ў святочныя дні.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

# Скаўты ў лясах

*СМАРГОНЬ. Амаль увесь жнівень недалёка ад Солаў працаваў штогадовы нацыянальны летнік скаўцкага тыпу.*

У ім сабраліся дзеці з Бабруйска, Асіповічаў, Полацка, Наваполацка, Мінска, Смаргоні. Акрамя адпачынку, яны дапамагалі адзінокім пажылым людзям, вучыліся жыць у прыродных умовах, самі "здабываць" сабе харчаванне. Скаўты добра пасябравалі з мясцовымі. Абяцалі прыехаць праз год.

*Валянціна ВЕШТАРТ.*

# Рамановіч лепшы за Лінга?

*СМАРГОНЬ. Пасля візіту прэм'ер-міністра С. Лінга агрэгатны завод абяцаных грошай пакуль не атрымаў. Але на прадпрыемстве справы пайшлі на лад, што звязана з новым дырэктарам Іванам Рамановічам.*

Невялікія партыі трактароў МТЗ-082 адправілі ў Англію, Германію, Швецыю, Польшчу. Плануецца адкрыць прадстаўніцтва завода ў Эстоніі і Латвіі. Агрэгатны мадэрнізуе вытворчасць, робіць трактар універсальным, каб выкарыстоўваць ў розных галінах. Хутка МТЗ-082 будзе прыбіраць вуліцы горада. Мадэрнізаваным трактарам зацікавіліся два міністэрствы - лясной і сельскай гаспадаркі. Адзін выпрабоўваецца як тралёвачны ў мясцовым лясгасе. Другі - у Маладзечанскім раёне на свінакомплексе калгаса імя Дзяржынскага. Прапрацоўваецца варыянт адправіць машыны ў В'етнам на ўборку рысу. На базе былога ваенна-будаўнічага атрада адкрываецца пляцоўка "Смаргонь-трактарасервіс". Тут будуць рамантаваць тэхніку, прадаваць да яе запчасткі, а самае галоўнае, рэалізоўваць прадукцыю галаўнога прадпрыемства. Дадаткова агрэгатны робіць мэблю, сталярку.

*Альберт КУМІШЧА.*

# Целяханскія лімоны

*АСТРАВЕЦ. Замест 215 кубаметраў запланаванай драўніны нарыхтавана амаль 2000 - такі вынік работы 56 лесаводаў з Варнянскага, Гервяцкага і Катлоўскага лясніцтваў, якія нядаўна вярнуліся з камандзіроўкі ў Целяханскі лясгас.*

Там яны дапамагалі расчышчаць лясныя завалы пасля смерчу і нарыхтоўваць бураломную драўніну. Акрамя маральнага задавальнення, атрымалі і матэрыяльнае. Па словах некаторых з іх, дзень работы дадаваў да зарплаты па "лімону".

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Парафіяне дзеляцца

*АСТРАВЕЦ. На неаднаразовыя звароты парафіянаў касцёла Узвышэння Святога Крыжа аб падзеле парафіі на дзве біскуп Гродзенскай епархіі А. Кашкевіч адказваў маўчаннем.*

Яны папрасілі паўдзейнічаць на яго старшыню па справах рэлігіі аблвыканкома Генадзя Урбановіча і накіравалі таму адпаведную заяву.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Замена

*АСТРАВЕЦ. Неўзабаве ў тамтэйшай пагранкамендатуры зменіцца камендант.*

Анатоль Лапо, паступіўшы ў Акадэмію фэдэральнай пагранічнай службы Расіі, пойдзе на павышэнне ў Смаргонскі пагранатрад. Ёсць меркаванне, што на яго месца прыйдзе начальнік аднаго з пастоў Астравецкай пагранкамендатуры.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Пакарыцелі межаў

*АСТРАВЕЦ. Тры юнакі і дзве дзяўчыны з латвійскага горада Ліепая сталіся заўзятымі падарожнікамі.*

Напачатку яны парушылі літоўскую мяжу і бадзяліся па сталіцы суседняй дзяржавы амаль два дні, аглядаючы ўсе тамтэйшыя помнікі культуры, кавярні і г. д. Затым па шпалах перайшлі ў Беларусь і бессэнсоўна сноўдаліся па райцэнтры з аўтобуснымі білетамі да Полацка ў кішэнях і рукзаках за плячыма.

Гэта і прыцягнула ўвагу нашых памежнікаў, якія затрымалі пяцёрку адважных. Пасля разбіральніцтва іх перадалі літоўцам, а тыя зазначылі, што парушэнне дзвюх межаў - гэта ўжо занадта.

*Маркел АНДРЭЙЧЫК.*

## Скандальчыкі

# Брыдкасловіў старшыня

*АСТРАВЕЦ. Інспектар дзяржпажнагляду А. Кляўда праводзіў праверку аб'ектаў захоўвання, сушкі і перапрацоўкі збожжа.*

Мноства парушэнняў было выяўлена ў калгасе "Радзіма" - не выканана больш за 20 мерапрыемстваў, прапанаваных папярэдняй праверкай. Натуральна, што інспектар зрабіў заўвагу старшыні гаспадаркі В. Адахоўскаму. Той прыняў неадэкватнае рашэнне - пачаў у прысутнасці сведкаў нецэнзурна выказвацца ў адрас інспектара, адмовіўся падпісаць прадпісанне і выканаць прапанаваныя мерапрыемствы. Больш таго, выгнаў інспектара з тэрыторыі аб'екта.

Пажарныя паскардзіліся на паводзіны калгасніка старшыні выканкома. Рэакцыя апошняга пакуль невядомая.

*Аддзел інфармацыі.*

## Жахі

# Жыццё - капейка

*ВІЛЕЙКА. Сёлета ўжо 59 чалавек памерлі гвалтоўнай смерцю. 17 удалося выратаваць.*

З нябожчыкаў 31 павесіўся, 4 патанулі, 2 атруціліся гарэлкай, 1 атруціўся газам, 6 загінулі ў дарожна-транспартных здарэннях, 4 згарэлі, 3 загінулі ад цяжкіх цялесных пашкоджанняў. 26 жніўня ля Іжы знойдзены павешаны труп 23-гадовага лесніка.

У мясцовую бальніцу дастаўлены студэнтка Полацкага лясного тэхнікума з атручаннем невядомым ядам і 20-гадовая жыхарка з наркатычным атручаннем. Жанчыны жывы.

У РАУС прынеслі заяву - жыхар Маладзечна паехаў на вадасховішча адпачыць. І знік.

*Марына ТАЧЫЦКАЯ.*

## 1 верасня

# Булачкі з кацельні. Былой

*ВІЛЕЙКА. З 1 верасня школьныя сталоўкі будуць карміць дзяцей вырабамі МП "Вера".*

У былой кацельні па вуліцы Незалежнасці адкрыты цэх па выпечцы мучных вырабаў. 6 пекараў працуюць у 2 змены. Акрамя школ, прадукцыя трапіць у гарадскія магазіны - заключаны дагавор з дзяржгандлем.

*Марына ТАЧЫЦКАЯ.*

# ...і труны ўсплываюць

Пачатак на 1-й стар.

## П'юць, працуюць, бастуюць

У пасёлку тысяч 25 насельніцтва. Жывуць у "новых" 5-павярхоўках, "сталінскіх" 2-павярхоўках, "на дне" - драўляных бараках без выгод. У дамах цёпла. Топяць кожны дзень і зімою, і летам. Каб пасяліцца, трэба заплаціць дзяржаве 5 мільёнаў 200 тысяч (26 мільёнаў на нашы). У магазінах (дзяржаўных не засталося) - голыя паліцы. Але, бывае, завозяць прадукты. На беларускія чорны хлеб каштуе 25 тысяч, свініна - 150, памідоры - 75. Гарэлка - 85. Праўда, "казёнку" знайсці цяжка. У крамах прадаюць "кручоную" - спірт-сырэц, разведзены вадою. Штотыдзень ад яе нехта паміраe.

Магілкі ўражваюць. Зімою труну закопваюць. Летам лёд растае і вада труну выпіхвае на паверхню. "Зноў лодка ўсплыла", - жартуюць мужыкі. На магілках шмат жалезных крыжоў былых палітычных. Без прозвішчаў. Толькі значыцца нумар, пад якім яны пакутавалі.

Жыццё большай часткі жыхароў пасёлка праходзіць у 3-х вымярэннях: п'юць, працуюць, бастуюць, калі не плацяць. Прычым, вылучаючы палітычныя патрабаванні - адстаўка прэзідэнта і ўрада. Яшчэ жабруюць. Сем'ямі. Але навару мала. У людзей няма грошай.

*Запісаў Васіль САВІЦКІ.*

## Самакіраванне

# Райвыканком - за солтысаў

*Старшыня Ардашынскага сельсавета Леанарда Макей прапанавала на сваёй тэрыторыі выбраць старастаў вёсак.*

18 найпаважаных сялянаў атрымалі грамадскія пасады. Задачы солтысаў - падтрымліваць чысціню і парадак. Але кожны арганізаваў і свята сваёй вёскі, вызначыў дом узорнага зместу, а ўзнагародзілі пераможцаў за кошт раённага бюджэту.

Перамаглі, у асноўным, людзі сталага ўзросту. 80-гадовы Аляксандр Макей з вёскі Біцяняты, 75-гадовая Ядвіга Даніловіч з Гейлешы атрымалі па 100 тысяч.

*Тарэса КУМІШЧА.*

